№4 (308)
2012

# Права на волю

Праваабарончы бюлетэнь




# Віцебскі пакутнік

## Асуджаны на два гады і адзін месяц зьняволеньня
## Сяргей Каваленка працягвае бестэрміновую галадоўку

21 лютага суд Першамайскага раёну Віцебску пачаў разглядаць крымінальную справу супраць сябра КХП-БНФ Сяргея Каваленкі. Справу разглядае суддзя Алена Жук.

Сяргей Каваленка хадайнічаў, каб яго агледзелі лекары: "У мяне дыстрафія, я страціў 25 кілаграмаў". Усіх выдалілі з залі. Лекары, якіх выклікала жонка Алена, агледзелі С. Каваленку. Суддзя агучыла медычнае заключэньне: у Каваленкі "зьнясіленьне" і гастрыт страўніка ў стадыі абвастрэньня, але яму не патрэбная шпіталізацыя.

Каваленка выступіў з хадайніцтвам, каб да яго дапусьцілі лекараў. Зноў абвясьцілі перапынак і ўсіх вывялі з залі. Прыехала хуткая дапамога. Лекар Дзьмітрый Дубакін сышоў, нічога не сказаўшы родным Каваленкі.

Родныя Каваленкі выклікалі яшчэ адну брыгаду "хуткай дапамогі", бо ня вераць той брыгадзе лекара Дзьмітрыя Дубакіна, якая прыязджала раніцай і пасьля абеду. У "хуткай" абяцалі прыслаць новую брыгаду.

Пасьля перапынку суддзя зачытала дзьве карты выкліку "хуткай дапамогі". Лекар Дубакін піша, што стан бяз зьменаў, але ёсьць зьмены ў стане крыві. Іншы лекар, Фадзееў, рэкамендаваў больш глыбока вывучыць стан здароўя. У працэсе быў абвешчаны перапынак да 14 гадзінаў 22 лютага. Суддзя вырашыла накіраваць Каваленку ў шпіталь СІЗА для дасьледаваньня стану здароўя.

22 лютага аднавілася судовае паседжаньне па справе С. Каваленкі. Жонка Сяргея Алена Каваленка прыйшла з 7-месячнай дачкой на руках. Жанчына разгарнула бела-чырвона-белы сьцяг. Супрацоўнікі міліцыі спрабавалі выдаліць яе з памяшканьня, аднак людзі заступіліся за Алену, і яна дастала плакат "Свабоду беларусу! Свабоду Каваленку!". Міліцыянты пачалі выводзіць людзей, паколькі суддзя Алена Жук пакінула суд. У выніку паседжаньне перанесьлі ў іншую залю.

У судовай залі забаранілі весьці фота і відэаздымкі. Маці Каваленкі не пусьцілі ў залю. Журналістаў у залю не пусьцілі. У судзе ім забаранілі карыстацца ноўтбукамі і дыктафонамі. Міліцыя патрабуе ў журналіста

(Працяг на стар. 5)

***Праваабарончыя матэрыялы можна таксама прачытаць на сайтах: www.spring96.org; www.charter97.org; www.baj.by***

### Валер ШЧУКІН:

# "Давядзецца зьняць шапку і прасіць міласьціну"

Вядомага праваабаронцу Валера Шчукіна з-за адмовы аддзелу па грамадзянстве і міграцыі Фрунзенскага РУУС у рэгістрацыі фактычна пазбаўляюць пенсіі і крыніцы існаваньня. Згодна з новымі папраўкамі ў закон, атрымліваць пенсію трэба будзе па месцы рэгістрацыі. А ў Валера Шчукіна рэгістрацыі няма, дзевяць год таму яго незаконна выпісалі на вуліцу. За перыяд паўгадавой цяжбы ў судах Валер Шчукін дайшоў 19 сьнежня 2011 году да Вярхоўнага суда. Праваабаронца падаў чарговую скаргу на пастанову суда Фрунзенскага раёну г. Менску аб адмове ў рэгістрацыі. Праз тыдзень па патрабаваньні начальніка ўпраўленьня скаргаў і прыёму грамадзянаў ён прадставіў у Вярхоўны суд дадатковыя дакументы. Чаканьне доўжылася два месяцы: адказ Вярхоўнага суда – адмоўны.



Валер ШЧУКІН.

Валер Шчукін лічыць, што яго ў літаральным сэнсе выпраўджаюць на паперць прасіць міласьціну. Пенсіянер Узброеных Сілаў СССР, 70-гадовы капітан 2-га рангу ў адстаўцы ўжо дзясяты год зьяўляецца "заслужаным бамжом" рэспублікі. Праваабаронца – адзіны беларус, які па палітычных матывах ня мае выбарчага права, жыльля, а цяпер знаходзіцца пад пагрозай пазбаўленьня і сродкаў да існаваньня: "У 2003-м годзе, калі я вырашыў балатавацца ў дэпутаты Полацкага гарадзкога савету, улады незаконна выселілі мяне на вуліцу, таму што ім такія дэпутаты не патрэбныя. Яны выпісалі мяне, спасылаючыся на тое, што дырэктар сельгастэхнікуму, дзе я быў зарэгістраваны, нічога не ўзгадніў з Аблсаўпрафам і УЛКСМам, а гэтыя арганізацыі на той момант ужо не існавалі. Акрамя таго, ні тады, ні зараз па законе нельга выпісаць чалавека ў нікуды, а яны выпісалі. Зараз я атрымаў адказ ад Вярхоўнага суда, што ўсё было законна. Гэта вышэйшая інстанцыя, вышэй пісаць няма куды. У гэтым месяцы я пенсію, напэўна, яшчэ атрымаю, а як жыць далей, я ня ведаю. Давядзецца зьняць шапку і прасіць міласьціну", – распавёў Валер Шчукін.

# Судовае разьбіральніцтва несправядлівае...

### Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў асуджае рашэньне Менгарсуда па скарзе Валянціна Стэфановіча

Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, сумесная праграма Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Сусьветнай арганізацыі супраць катаваньняў (OMCT), асуджае адмову ў задавальненьні скаргі, накіраванай у Менскі гарадзкі суд намесьнікам старшыні Праваабарончага цэнтру "Вясна" сп. Валянцінам Стэфановічам.

13 лютага 2012 году Менскі гарадзкі суд адхіліў другую скаргу, накіраваную сп. Валянцінам Стэфановічам, і пакінуў у сіле прысуд, абвешчаны Партызанскім раённым судом г. Менску ад 16 сьнежня 2011 году, які асудзіў яго да штрафу ў памеры 53 мільёнаў рублёў (каля 4 тысяч 840 еўра). Першая пастанова ў дачыненьні да яго была абвешчаная 19 кастрычніка 2011 году, згодна з якой ён быў абавязаны выплаціць 4 мільёны 750 тысяч беларускіх рублёў (каля 435 еўра).

Уся справа зьвязаная з прэтэнзіямі да яго з боку падатковай інспекцыі Партызанскага раёну Менску на падставе артыкулу 13.6 КаАП ("нявыплата або няпоўная выплата падаткаў"). Падатковая інспекцыя сьцьвярджае, што сп. Валянцін Стэфановіч не задэклараваў сумы грошай, якія яна разглядае ў якасьці "асабістага прыбытку". Насамрэч, гэтыя сумы, пераведзеныя на банкаўскія рахункі ў Літве міжнароднымі арганізацыямі, такімі як Amnesty International і Дацкі інстытут па правах чалавека, заўсёды выкарыстоўваліся ў межах дзейнасьці ПЦ "Вясна".

Уладам Беларусі ўдалося распачаць справу супраць сп. Стэфановіча пасьля перадачы пэўнай банкаўскай інфармацыі літоўскім Міністэрствам юстыцыі Міністэрству падаткаў і збораў Рэспублікі Беларусь, як гэта было ў выпадку з прэзыдэнтам ПЦ "Вясна" Алесем Бяляцкім, які цяпер адбывае 4,5 гады зьняволеньня. Той факт, што інфармацыя, перададзеная літоўскім Міністэрствам юстыцыі беларускім уладам, была няпоўнай (як паказана ў лісьце літоўскага Міністэрства юстыцыі ад канца жніўня 2011 году), ня быў прыняты пад увагу.

Абсерваторыя рашуча асуджае пацьверджаньне прысуду ў дачыненьні да сп. Валянціна Стэфановіча і няспынны судовы перасьлед яго, які, як падаецца, скіраваны на спыненьне яго дзейнасьці ў галіне правоў чалавека і дзейнасьці ПЦ "Вясна", і асуджае працяглыя парушэньні нормаў справядлівага судовага разьбіральніцтва ў гэтай справе.

Абсерваторыя заклікае беларускія ўлады спыніць любыя формы перасьледу – у тым ліку на фінансавым, адміністрацыйным і судовым узроўні – супраць сп. Валянціна Стэфановіча, а таксама супраць усіх праваабаронцаў у краіне і прытрымлівацца палажэньняў Дэкларацыі ААН аб праваабаронцах, прынятай Генеральнай Асамблеяй ААН 9 сьнежня 1998 году, і забясьпечыць пры любых абставінах павагу да правоў чалавека і асноўных свабодаў у адпаведнасьці з міжнароднымі стандартамі ў галіне правоў чалавека і міжнароднымі дамовамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь.

*Парыж-Жэнева,*
*21 лютага 2012 году*

# ...З працы вывелі пад канвоем

Толькі 20 лютага кіраўнік суполкі незалежнага прафсаюзу прадпрыемства "Граніт" у Мікашэвічах Алег Стахаевіч азнаёміўся з загадам адміністрацыі прадпрыемства аб сваім звальненьні з працы, датаваным 16 лютага. Паколькі ў той дзень А. Стахаевіч ня быў азнаёмлены з загадам, то 17 лютага ён выйшаў на працу. Не дапусьціць актывіста да працы дапамагала ня толькі ахова заводу, але і супрацоўнікі аховы мясцовага РАУС. Алег Стахаевіч склаў акт пра недапушчэньне яго да працы без азнаямленьня з загадам аб звальненьні, пад якім падпісаліся 22 працаўнікі прадпрыемства. Дарэчы, да загаду аб звальненьні гэты акт далучаны ня быў.




Алега СТАХАЕВІЧА (у цэнтры) ахоўнікі выводзяць з прадпрыемства.

Алега Стахаевіча падтрымалі калегі-кіроўцы, што выехалі на 2 гадзіны пазьней у кар'ер. Калі ім паведамілі, што ў адносінах да прафсаюзнага актывіста ўсё зроблена па інструкцыі, то яны на дзьве гадзіны ў знак салідарнасьці паставілі аўтамабілі на тэхагляд – як таго таксама патрабуе інструкцыя. 28 рабочых накіравалі выканаўцу абавязкаў дырэктара РУВП "Граніт" Эдуарду Гаўрылковічу заяву, у якой пагражалі страйкам, калі ня будуць выкананыя іх патрабаваньні: неадкладнае спыненьне дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыкмеце, аднаўленьне на працы незаконна звольненых Стахаевіча А.В. і Ліцьвінкі Л.І., прадастаўленьне памяшканьня (юрыдычнага адрасу) першаснай арганізацыі РУВП "Граніт" Беларускага незалежнага прафсаюзу (БНП), створанай у поўнай адпаведнасьці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, заканадаўчымі актамі, Статутам БНП і міжнароднымі нормамі.

Кіраўнік Беларускага незалежнага прафсаюзу Мікалай Зімін выказаўся ў падтрымку Алега Стахаевіча. Ён накіраваў ліст выканаўцу абавязкаў генеральнага дырэктара "Граніту" Эдуарду Гаўрылковічу. У лісьце Мікалай Зімін адзначае, што пры звальненьні зафіксаваныя парушэньні: Стахаевіча своечасова не азнаёмілі з загадам аб звальненьні, яму адмовілі ў пераводзе на іншую працу. Акрамя таго, пра звальненьне не паведамілі Беларускаму незалежнаму прафсаюзу. Таму прафсаюзны лідар патрабуе неадкладна аднавіць Алега Стахаевіча на працы.

28 лютага некалькі актывістаў незалежнага прафсаюзу "Граніт" наведалі Лунінецкі ваенкамат, дзе прайшлі медычны агляд. Людзям паведамілі, што іх забіраюць на вайсковыя зборы, якія будуць цягнуцца каля месяца. Адзін з рабочых мяркуе, што на зборы найперш паедуць актывісты незалежнага прафсаюзу: "Прыдатны. Ня трэба ім нічога, хоць у мяне аналізы з таго году... Учора я быў удзень на працы, і мне далі позву. Адпаведна, я аналізаў ніякіх не здаваў, нічога не праходзіў як трэба. Флюараграфіі ніякай не рабіў. Але іх гэта мала цікавіць. 16 сакавіка будзе сход, і з 30 сакавіка, я так зразумеў, будуць забіраць напэўна. Хто самы большы актывіст, то вось і забіраюць..."

Актывіст незалежнага прафсаюзу на "Граніце" распавёў, што заявай аб магчымым страйку на прадпрыемстве зацікавілася пракуратура. З падпісантамі заявы праводзіў прафілактычныя гутаркі пракурор Лунінецкага раёну Віктар Савіч. 6 чалавек з прычыны ціску адміністрацыі адклікалі свае подпісы пад заявай аб магчымым страйку.

## Міжнародная канфедэрацыя прафсаюзаў выказала салідарнасьць з рабочымі "Граніту"

**Генеральны сакратар Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў (МКП) Шаран Бароў ад імя 175 мільёнаў працоўных, аб'яднаных у 305 нацыянальных прафсаюзных цэнтраў, якія дзейнічаюць у 151 краіне і тэрыторыі, зьвярнулася да прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з парушэньнямі правоў незалежнага прафсаюзу на РУВП "Граніт" г. Мікашэвічы, паведамляе сайт Беларускага Кангрэсу Дэмакратычных Прафсаюзаў.**

**МКП патрабуе:**

**• спыніць і ўсталяваць пакараньне за ўціск прафсаюзаў і іх дыскрымінацыю;**

**• стварыць умовы, пры якіх свабода аб'яднаньня ў Беларусі ў поўным аб'ёме павінна гарантавацца законамі і на практыцы;**

**• зьмяніць фармулёўкі ў законах, якія не адпавядаюць міжнародным працоўным нормам і правам працоўных на арганізацыю сваёй дзейнасьці і праграмаў свабодна і без умяшаньня ўладаў;**

**• выканаць рэкамендацыі Камісіі па рассьледаваньні і прыняты ўрадам План дзеяньняў.**

**У якасьці першага кроку ў гэтым кірунку, і канкрэтна ў выпадку з РУВП "Граніт", МКП патрабуе ад урада Беларусі, каб:**

**• Алег Стахаевіч і Людміла Ліцьвінка былі адноўленыя на сваіх працоўных месцах;**

**• ізноў створаны прафсаюз на РУВП "Граніт" быў прызнаны і мог функцыянаваць без усялякага ўмяшаньня ў ягоныя справы;**

**• работнікі прадпрыемства маглі свабодна ўступаць у арганізацыі па сваім выбары.**

**У лісьце генеральнага сакратара МКП Шаран Бароў паведамляецца, што МКП будзе ажыцьцяўляць кантроль над сітуацыяй з правамі работнікаў і іх прафсаюзаў на РУВП "Граніт" і ў цэлым у Рэспубліцы Беларусь. МКП разгледзіць магчымасьць інфармаваньня Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) і Еўразьвязу аб апошніх падзеях.**

**МКП падтрымлівае і выказвае шырокую салідарнасьць з незалежнымі прафсаюзамі і працоўнымі Беларусі ў барацьбе за свабодную рэалізацыю іх фундаментальных правоў.**

# Сур'ёзная занепакоенасьць...

## Фундацыя Дамоў Правоў Чалавека праінфармавала ААН пра працяг парушэньня правоў чалавека ў Беларусі

Фундацыя Дамоў Правоў Чалавека, якая мае адмысловы дарадчы статус пры Радзе па правах чалавека ААН, накiравала ў кампетэнтны мiжнародны орган заяву, у якой паведамляе пра становiшча з правамi чалавека ў нашай краiне ад часу прыняцьця апошняй Рэзалюцыi па Беларусi на 17-ай сесii Рады.

**Працяг парушэньня правоў чалавека ў Рэспублiцы Беларусь**

З часу прэзiдэнцкiх выбараў 19 сьнежня ўлады жорстка перасьледавалi праваабаронцаў ды iхнiя арганiзацыi, юрыстаў, журналiстаў i любых асобаў, якiя крытычна выказвалiся аб становiшчы з правамi чалавека ў Беларусi або выказвалi заклапочанасьць гэтым – такiх як студэнты або ўдзельнiкi мiрных сходаў.

21 лютага 2011 году Вярхоўны камiсар па правах чалавека даў наступную ацэнку: "Таксама працягваецца перасьлед i палiтычны i адмiнiстрацыйны цiск на праваабаронцаў i НДА, у тым лiку арышты, допыты, аблавы на офiсах, канфiскацыя матэрыялаў i запалохваньне з мэтай прадухiлiць стасункi з мiжнароднымi i мiжурадавымi арганiзацыямi. [...] Я ўжо падкрэсьлiваў раней для Урада Беларусi i мушу сказаць яшчэ раз: дзяржавы абавязаныя абараняць праваабаронцаў, журналiстаў i грамадзянскую супольнасьць ад пагрозаў, помсты або цiску, зьвязаных з законным ажыцьцяўленьнем iхняй дзейнасьцi па абароне правоў чалавека".

Становiшча з правамi чалавека ў Беларусi пагоршылася з часу прыняцьця рэзалюцыi Радай па правах чалавека на сваёй 17-ай сесii (травень-чэрвень 2011 году). Урад працягвае палiтыку перасьледу праваабаронцаў ды iхнiх арганiзацыяў, юрыстаў, журналiстаў i любых асобаў, якiя крытычна выказваюцца аб становiшчы з правамi чалавека ў Беларусi.

У лiстападзе 2011 году Камiтэт ААН супраць катаваньняў выказаў сваю глыбокую занепакоенасьць з нагоды шматлiкiх i пасьлядоўных паведамленьняў аб сур'ёзных актах запалохваньня, ганеньняў i пагрозаў на адрас праваабаронцаў i журналiстаў, а таксама адсутнасьць зьвестак аб якiх-небудзь рассьледаваньнях адносна такiх паведамленьняў.

Права на свабоду мiрных сходаў строга абмежаванае ў Рэспублiцы Беларусь. Амаль немагчыма выражаць тое, у што вы верыце, на вулiцах. Арганiзацыя дэманстрацыi часта азначае рызыку жорсткай расплаты i пакараньня.

Хаця Рада па Правах Чалавека заклiкала беларускiя ўлады паважаць свабоду мiрных сходаў i прывесьцi адпаведнае заканадаўства ў адпаведнасьць з мiжнароднымi абавязальнiцтвамi ў галiне правоў чалавека, улады Беларусi прынялi яшчэ больш абмежавальныя меры ў гэтым кiрунку.

На цяперашнi час маўклiвыя пратэсты i простае пляскaньне ў далонi на вулiцах караюцца законам. У адным толькi лiпенi 2011 г. было затрымана каля 400 чалавек, якiя апладзiравалi ў знак пратэсту, што сьведчыць аб працягу масавых затрыманьняў у Беларусi.

Згодна з новым заканадаўствам, прынятым у лiстападзе 2011 году, зладзiць дэманстрацыю цi проста сход без папярэдняй згоды ўладаў зьяўляецца крымiнальным злачынствам. Як адзначалася ў прэс-рэлiзе адмысловых дакладчыкаў Арганiзацыi Аб'яднаных Нацыяў 24 лiстапада 2011 году, "распаўсюд зьвестак аб сходзе, у тым лiку праз сацыяльныя сеткi, без атрыманьня дазволу на яго, строга забаронены, як i грамадзкiя заклiкi да сходу".

На справе, заявы на правядзеньне мiрных сходаў пастаянна адхiляюцца, у той час як арганiзатары рызыкуюць быць прыцягнутымi да крымiнальнай адказнасьцi за правядзеньне несанкцыянаваных сходаў i/або распаўсюд любых зьвестак аб iх.

Рэспублiка Беларусь таксама iмкнецца да яшчэ большага абмежаваньня правоў на свабоду аб'яднаньняў у законе; улады паступова павялiчваюць адказнасьць за дзейнасьць ад iмя незарэгiстраваных арганiзацыяў. Апошнiя папраўкi да Закону аб грамадзкiх аб'яднаннях забараняюць НДА мець рахункi ў замежных банках. Акрамя таго, узгаданыя папраўкi ўводзяць крымiнальную адказнасьць за замежную дапамогу, уключаючы шматлiкiя працэсуальныя нормы i ўсё большую колькасьць абмежаваньняў, парушэньне якiх вядзе да крымiнальнай адказнасьцi, а таксама закрыцьця. Артыкул 369.2 Крымiнальнага кодэксу абвяшчае: "[...] мiтынгi, пратэсты, вулiчныя маршы, дэманстрацыi, [...] правядзеньне семiнараў ды iншых формаў палiтычнай i прапагандысцкай дзейнасьцi сярод насельнiцтва, [...] караюцца штрафам або арыштам да 3 месяцаў, або турэмным зьняволеньнем да 2 гадоў".

Праваабарончым НДА ў Беларусi пастаянна адмаўляецца ў рэгiстрацыi, якая зьяўляецца перадумовай адкрытай i законнай дзейнасьцi ў краiне. Пасьля пазбаўленьня рэгiстрацыi ў 2003, "Вясна" была вымушаная працягваць сваю дзейнасьць у падпольлi. Такiм чынам, арганiзацыя не магла мець банкаўскi рахунак у Беларусi i была пазбаўленая права на атрыманьне афiцыйнага фiнансаваньня сваёй дзейнасьцi ўнутры краiны. Камiтэт ААН па правах чалавека пастанавiў, што ўлады былi абавязаныя перарэгiстраваць "Вясну" i далей прадухiляць парушэньнi права на свабоду аб'яднаньняў, гарантаванага ў адпаведнасьцi з Мiжнародным Пактам аб грамадзянскiх i палiтычных правах, ратыфiкаваным Беларусьсю. Гэта не было выканана.

Адвольнае выкарыстаньне нормаў рэгiстрацыi шырока распаўсюджанае ў Беларусi. Зарэгiстраваныя НДА баяцца страцiць рэгiстрацыю ў вынiку адкрытых выказваньняў.

Беларускi Хельсiнскi камiтэт (БХК) быў афiцыйна папярэджаны аб магчымым пазбаўленьнi рэгiстрацыi ў сувязi з ягоным паведамленьнем, накiраваным сьпецыяльнаму дакладчыку Арганiзацыi Аб'яднаных Нацыяў па незалежнасьцi юрыстаў i суддзяў 12 студзеня 2011 г. Мiнiстэрства Юстыцыi вынесла папярэджаньне з наступнымi заявамi: "Мiнiстэрства юстыцыi лiчыць, што зьвесткi, якiмi Беларускi Хельсiнскi Камiтэт падзялiўся з мiжнароднымi арганiзацыямi, прадузятыя адносна намаганьняў дзяржаўных органаў i праваахоўных органаў па падтрымцы стабiльнасьцi i бясьпекi ў краiне i зьяўляюцца наўмыснай спробаю сказiць сапраўднае становiшча i зьняславiць Рэспублiку Беларусь на мiжнародным узроўнi." БХК быў папярэджаны зноў 6 чэрвеня 2011 г. за парушэньне падатковага заканадаўства. Нягледзячы на тое, што БХК абскардзiў абодва папярэджаньнi, улады iмкнуцца зачынiць арганiзацыю.

У сьнежнi 2011 году Беларускай рэспублiканскай ЛГБТ-арганiзацыi было адмоўлена ў рэгiстрацыi на падставе ўказаньня няправiльнай даты нараджэньня аднаго заснавальнiка i скажэньня iмёнаў 2 з 61 заснавальнiкаў арганiзацыi, у вынiку чаго ўрад лiчыць несапраўднымi зьвесткi, пададзеныя для рэгiстрацыi.

Адным з наступстваў такiх законаў i практыкi ўладаў ёсьць зьняволеньне Алеся Бяляцкага, кiраўнiка праваабарончага цэнтру "Вясна", выбiтнага i мiжнародна вядомага праваабаронцы. У лiстападзе 2011 году Бяляцкi быў асуджаны да 4,5 гадоў зьняволеньня ў калонii строгага рэжыму з канфiскацыяй маёмасьцi. Утрыманьне пад вартай i зьняволеньне Алеся Бяляцкага зноў паказвае, наколькi сур'ёзная пагроза свабодзе аб'яднаньня i самавыражэньня ў Беларусi. Алесь Бяляцкi быў вымушаны праводзiць сваю законную праваабарончую дзейнасьць у падпольлi. Цяпер iмя Алеся Бяляцкага папаўняе i без таго доўгi сьпiс палiтычных зьняволеных у Рэспублiцы Беларусь, якi ўключае праваабаронцаў i былых кандыдатаў у прэзiдэнты; многiя з iх былi арыштаваныя пры разгоне дэманстрацыяў пасьля прэзiдэнцкiх выбараў у сьнежнi 2010 г. У 2011 г. некаторыя палiтычныя зьняволеныя вызваляліся, часта толькi пасьля падпiсаньня прашэньняў аб памiлаваньнi.

У лістападзе 2011 г. Камітэт ААН супраць катаваньняў разглядзеў сур'ёзныя паведамленьні аб катаваньнях і жорсткім абыходжаньні з затрыманымі і зьняволенымі, а таксама неаказаньні ім медыцынскай дапамогі. Паведамленьні ўключаюць справы Андрэя Саньнікава і Уладзіміра Някляева, былых кандыдатаў у прэзідэнты, якія былі арыштаваныя супрацоўнікамі ў цывільным з непрапарцыйным ужываньнем сілы, падвергнутыя катаваньням у сьледчым ізалятары людзьмі ў масках, пазбаўленыя правоў на неадкладны доступ да адваката, сувязь са сваімі сем'ямі і медыцынскую дапамогу, нягледзячы на траўмы, атрыманыя пры арышце.

Дадатковай праблемнай галіной у Рэспубліцы Беларусь зьяўляецца адсутнасьць незалежнай судовай сістэмы. Камітэт супраць катаваньняў выказаў сваю глыбокую заклапочанасьць з нагоды пастаянных і пераважных адмоваў уладаў у правядзеньні неадкладнага, бесстароньняга і поўнага рассьледаваньня сцьвярджэньняў аб катаваньнях і жорсткім абыходжаньні і прыцягненьні да адказнасьці меркаваных выканаўцаў.

У 2011 годзе юрысты, якія актыўна ўдзельнічаюць у абароне правоў чалавека і праваабаронцаў, пазбаўляліся званьня адваката, атрымлівалі пагрозы і пазбаўляліся доступу да сваіх кліентаў у Рэспубліцы Беларусь. Палітыка перасьледу і ціску на адвакатаў мае негатыўнае ўздзеяньне на іншых юрыстаў. Са сьнежня 2010, сем беларускіх юрыстаў, якія выступалі адвакатамі ў палітычна абумоўленых справах, былі пазбаўленыя званьня адваката.

**Мы заклікаем беларускія ўлады:**

- неадкладна і безумоўна вызваліць і рэабілітаваць усіх палітвязьняў;
- адмяніць нядаўнія абмежавальныя папраўкі да заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія яшчэ больш абмяжоўваюць правы на свабоду мірных сходаў і аб'яднаньняў, а таксама іншыя палажэньні заканадаўства, якія абмяжоўваюць правы грамадзянаў на свабоду аб'яднаньняў і мірных сходаў;
- перарэгістраваць Праваабарончы цэнтр "Вясна" паводле ўказаньня Камітэту па правах чалавека Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў і надалей дазваляць праваабарончым ды іншым грамадзкім арганізацыям выконваць сваю працу, не асьцерагаючыся помсты, а таксама адмяніць заканадаўства, якое ўводзіць крымінальную адказнасьць за праваабарончую дзейнасьць, уключаючы артыкул 193.1 Крымінальнага кодэксу;
- забясьпечыць бесперашкодную дзейнасьць праваабаронцаў, журналістаў, грамадзкіх дзеячаў і арганізацыяў і прымаць меры для абароны правоў грамадзянаў на свабоду аб'яднаньняў і мірных сходаў;
- паважаць незалежнасьць судовай улады і правесьці дбайнае рассьледаваньне і перагляд прысудаў у дачыненьні да юрыстаў, пазбаўленых званьня адваката з часу прэзідэнцкіх выбараў у сьнежні 2010 году.

*23 лютага 2012 г.*

# Віцебскі пакутнік

(Пачатак на стар. 1)

Багдана Арлова выдаліць здымкі пачатку працэсу, калі міліцыянеры нападалі на Алену Каваленка. З залі суда выдалілі бацьку Сяргея Каваленкі Аляксандра. Каваленка-старэйшы абурыўся, калі суддзя зачытала заключэньне медыкаў, што стан здароўя Сяргея дазваляе яму ўдзельнічаць у працэсе. Суддзя выдаліла з залі сваячку Сяргея Каваленкі. Яна кажа, што Каваленка заявіў хадайніцтва пра шпіталізацыю.

Сяргей Каваленка з цяжкасьцю пераносіць удзел у працэсе. Ён скардзіцца на галаўны боль, пагаршэньне слыху і зроку, агульную слабасьць. Сяргей Каваленка заявіў адвод суддзі. У працэсе абвясьцілі перапынак да 10:30 23 лютага.

23 лютага працэс над Сяргеем Каваленкам працягнуўся ў зачыненым рэжыме. Нікога з прысутных, акрамя адвакатаў, у залу не пусьцілі. Людзі, што засталіся ў калідоры, пачалі абурацца і патрабаваць, каб ім дазволілі прысутнічаць на паседжаньні. Праз некалькі хвілінаў прыбыў АМАП і пачаў выштурхоўваць людзей на вуліцу. Маці палітвязьня Лідзію Каваленка моцна стукнулі па нырках, бацьку Аляксандру - парвалі куртку. Аперацыяй кіраваў Ігар Скарыновіч, начальнік міліцыі грамадзкай бясьпекі. Каб прысутныя не змаглі больш прайсьці ў залу, калідор заблакавалі сталамі.

Паводле словаў адваката Аляксандра Галіева, у залу паседжаньня завялі пятнаццаць староньніх людзей, і Каваленка хадайнічаў, каб на працэс дапусьцілі прэсу і людзей, якіх ён ведае. Палітвязень таксама заявіў пра адвод суддзі і пракурора. Але гэтыя хадайніцтвы суддзя не задаволіла.

З-за дрэннага самаадчуваньня Каваленку ў чарговы раз агледзелі лекары. Падчас агляду яму зрабілі прышчэпку, ад якой ён зьнепрытомнеў і ня змог больш удзельнічаць у працэсе.

Нягледзячы на тое, што Каваленка ледзь стаяў на нагах і дрэнна сябе адчуваў, судовы працэс працягнуўся допытам палітвязьня. Адвакаты і сам Каваленка выступілі з хадайніцтвамі пра зьмену меры стрыманьня, але суддзя не задаволіла іх. У першай палове дня ў судзе пасьпела выступіць толькі адна сьведка – прадстаўніца крымінальна-выканаўчай інспекцыі, якая сьцьвярджала, што Каваленка парушаў рэжым адбываньня пакараньня. Як і раней, журналістаў і сваякоў не пусьцілі ў залу паседжаньня.

У другой палове дня ў якасьці сьведак дапыталі працаўнікоў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Першамайскага раёну Віцебску – Якушэвіча, Шыліну і Пахноўскага, а таксама міліцыянераў Белавусава і Сыча.

З-за дрэннага стану здароўя і працягласьці працэсу палітвязьню зноў спатрэбілася дапамога медыкаў, аднак суддзя забараніла ім агледзець Каваленку, і брыгада хуткай дапамогі зьехала.

Судовае паседжаньне скончылася позна ўвечары допытамі жонкі палітвязьня Алены Каваленкі. Яна заявіла ў судзе, што міліцыянеры ўвесь час ціснулі на іх сям'ю, а таксама заклікала мужа пачаць хоць бы піць ваду. У судзе быў абвешчаны перапынак да 24 лютага.

24 лютага ў Віцебску скончыўся працэс над сябрам КХП-БНФ Сяргеем Каваленкам. Суддзя суда Першамайскага раёну Віцебску Алена Жук прызнала Сяргея Каваленку вінаватым ва ўхіленьні ад адбыцьця пакараньня і асудзіла яго па артыкуле 415 Крымінальнага кодэксу да 2 гадоў і 1 месяца калоніі ва ўмовах агульнага рэжыму.

У сваім апошнім слове палітвязень сказаў, што не лічыць сябе вінаватым па ўсіх прад'яўленых яму абвінавачаньнях. Адвакаты апазіцыянера заявілі, што будуць абскарджваць гэтае рашэньне суда.

Пракурор Дзьмітрый Лутаў патрабаваў для Каваленкі 2 гады 8 месяцаў калоніі. Санкцыя артыкулу 415 КК РБ прадугледжвае да трох гадоў турэмнага зьняволеньня.

Нагадаем, што 14 траўня 2010 г. суд Кастрычніцкага раёну г. Віцебску асудзіў Сяргея Каваленку да трох гадоў абмежаваньня волі без накіраваньня ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу. Крымінальны перасьлед актывіста пачаўся пасьля таго, як 7 студзеня 2010 г. ён на вачах у соцень мінакоў вывесіў на 40-метровай вышыні бел-чырвона-белы сьцяг на верхавіне галоўнай навагодняй елкі ў Віцебску. Сяргей Каваленка абвінавачаны паводле ч. 1 арт. 339 КК (наўмысныя дзеяньні, якія груба парушаюць грамадскі парадак) і ч. 2 арт. 363 (супраціў работніку праваахоўных органаў пры выкананьні ім службовых абавязкаў).

# "За мужнасьць, за гонар, за самаахвярнасьць"

## Мікалай Статкевіч узнагароджаны прэміяй "З прыўзьнятым забралам"

Прэмію імя Юрыя Захаранкі "З прыўзьнятым забралам" традыцыйна ўручаюць да 23 лютага праваабаронцы Цэнтру прававой дапамогі насельніцтву і Цэнтру правоў чалавека. Лаўрэатам прэміі за 2011 год стаў былы кандыдат у прэзідэнты Мікалай Статкевіч. Абвяшчаючы гэтае рашэньне, кіраўніца Цэнтру правоў чалавека Раіса Міхайлоўская адзначыла мужнасьць палітыка, які не скарыўся падчас сьледзтва і ў беларускіх турмах, куды яго кінулі за палітычную барацьбу. Паводле словаў Раісы Міхайлоўскай, камісія, якая вырашала лёс прэміі "З прыўзьнятым забралам" за 2011 год, выбрала Міколу Статкевіча аднагалосна.


Фота svaboda.org
Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Алег ВОЛЧАК і Марына АДАМОВІЧ.

"Статкевіч стаяў ля вытокаў нашай беларускай арміі. Адзін са стваральнікаў Беларускага аб'яднаньня вайскоўцаў (БЗВ). Некаторыя з былых паплечнікаў сышлі ва ўладу, а Мікалай Статкевіч застаўся верны справе. Для Статкевіча сапраўды "Радзіма вышэй за ўсё!". Статкевіч ня толькі ідэал беларускага афіцэра, але і ўзор беларускага мужчыны. Таму мы і вырашылі падтрымаць яго маральна", – адзначыў Алег Волчак.

За 2010 год прэміяй "З прыўзьнятым забралам" быў ушанаваны былы кандыдат у прэзідэнты Уладзімір Някляеў. Ён тады сядзеў у "амерыканцы", і дыплом за яго прымала жонка Вольга. "Сёньня я на волі і перакананы, што наступную прэмію ўручыць будучаму лаўрэату сам Мікалай Статкевіч", – сказаў Уладзімір Някляеў падчас уручэньня ганаровага дыплому жонцы Статкевіча Марыне Адамовіч: "Калі б зараз былі рыцарскія часы і мы б насілі шчыты і мячы, то з поўным правам на шчыце Міколы Статкевіча было б напісана "Рыцар бяз страху і папроку". Па сёньняшнім часе ён, можа, адзіны, хто мае поўнае права мець на сваім шчыце гэты надпіс".

Атрымліваючы ганаровы дыплом, жонка Міколы Статкевіча Марына Адамовіч сказала, што абавязкова перадасьць яму ў Магілёўскую турму навіну пра ўшанаваньне яго ганаровай прэміяй.

"А што да добрых словаў пра майго мужа, то лепш за адміністрацыю калоніі ня скажаш, калі яны напісалі, што на шлях выпраўленьня ён ня стаў. Калі ў нашай краіне змагацца за сваю Радзіму – гэта злачынства, то хай ён будзе самым злосным злачынцам", – пажартавала жонка палітвязьня.

Дыплом выканаў мастак-афганец Алесь Пушкін. Роўна як і стварыў сімволіку аргкамітэту "Абаронцы Айчыны". У цэнтры – ліцьвін з адкрытым забралам на кані, у верхнім куце – бел-чырвона-белы сьцяг і надпіс на лаціне: "Радзіма вышэй за ўсё!" Сімволіка руху таксама была прэзентаваная 24 лютага.

Прэмія імя Юрыя Захаранкі "З прыўзьнятым забралам" уручаецца з 2004 году. Раней яе атрымлівалі генерал Валер Фралоў, праваабаронца Гары Паганяйла, журналіст Аляксандр Тамковіч, прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч, вайсковец Аляксандр Камароўскі, паэт Уладзімір Някляеў.

# Дзесяць сутак арышту за "цацачны" мітынг

22 лютага ў судзе Маскоўскага раёну Менску судзілі актывіста грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду" Паўла Вінаградава. Яго абвінавацілі па артыкуле 23.34 КаАП РБ (Парушэньне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства ці пікетаваньня) за акцыю "Цацка мітынгуе" 10 лютага каля Менгарвыканкаму. Тады на плошчы былі выстаўленыя дзіцячыя цацкі з маленькімі транспарантамі: "Александра, адпусьці людзей!", "Мянты адарвалі мне вока", "Цацкі супраць бясчынства". Суддзя Тацяна Матыль пакарала актывіста арыштам на 10 сутак.

На судзе выступіў сьведка-міліцыянт, які заявіў, што бачыў, як Вінаградаў актыўна ўдзельнічаў у акцыі, выстаўляў цацкі. Сам Вінаградаў заявіў, што ён не ўдзельнічаў у акцыі, а назіраў побач.

Праваабаронца Міхась Пашкевіч, які прысутнічаў на працэсе, пракаментаваў прысуд, вынесены Паўлу Вінаградаву: "Раней 10-15 сутак давалі за акцыю кшталту Плошчы, а зараз даюць за акцыю, якую ладзяць цацкі. Сьмех, але горкі. Баюся нават уявіць, што будзе за сапраўдную акцыю".

"Але самае галоўнае – яны прызналі, што гэта пікет. Створаны прэцэдэнт, што пікетам зьяўляецца нейкі сімвалічны мітынг цацак ці лялек з нейкімі выявамі, і нават калі ты там проста побач праходзіў, то ты ўжо ўдзельнік", – дадаў адзін з лідараў "Гавары праўду" Андрэй Дзьмітрыеў, які таксама назіраў за працэсам.

Аляксандр Арцыбашаў, якога затрымалі 22 лютага ў будынку суда Маскоўскага раёну Менску, таксама асуджаны да 10 сутак арышту. Яго адвезьлі на Акрэсьціна, паведаміла ягоная жонка Марыя.

Арцыбашава затрымалі, калі ён спрабаваў перадаць Паўлу Вінаградаву сок і цыгарэты. На яго таксама склалі пратакол за лялечную акцыю. Такім чынам, абодва актывісты асуджаныя за акцыю пад назвай "Цацка мітынгуе!".

Нагадаем, што актывіст кампаніі "Гавары праўду" Павел Вінаградаў зьнік 21 лютага каля 17 гадзінаў. Доўгі час пра яго месцазнаходжаньня нічога не было вядома. Толькі ў 3:30 ночы высьветлілася, што Вінаградаў на Акрэсьціна.

# Адкліканьне амбасадараў Еўразьвязу – шлях да міжнароднай ізаляцыі Беларусі

***Міжнародная назіральная місія Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі выступіла з заявай, у якой выказвае глыбокую занепакоенасьць сітуацыяй, якая склалася ў сувязі з прапановай з боку ўладаў Рэспублікі Беларусь кіраўніку Прадстаўніцтва Еўрапейскага зьвязу і амбасадару Рэспублікі Польшча выехаць з краіны і наступным адкліканьнем амбасадараў астатніх дзяржаваў Еўрапейскага зьвязу. КМК таксама заклікае дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ ў бліжэйшы час выкарыстоўваць усе існуючыя магчымасьці для таго, каб дамагчыся ад уладаў Рэспублікі Беларусь выкананьня раней прынятых на сябе міжнародных абавязкаў у сферы чалавечага вымярэньня, павагі да стандартаў і механізмаў АБСЕ***

Дзейнічаючы па даручэньні Камітэту міжнароднага кантролю за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі (КМК), які аб'ядноўвае прадстаўнікоў нацыянальных і міжнародных няўрадавых арганізацыяў прасторы АБСЕ, ажыцьцяўляючы маніторынг агульнай сітуацыі з захаваньнем фундаментальных правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, падкрэсьліваючы, што правы чалавека зьяўляюцца прадметам прамой і законнай заклапочанасьці міжнароднай грамадзянскай супольнасьці; заклікаючы ўлады Беларусі прытрымлівацца ўзятых на сябе міжнародных абавязкаў у сферы правоў чалавека,

Міжнародная назіральная місія выказвае глыбокую занепакоенасьць сітуацыяй, якая склалася ў сувязі з прапановай з боку ўладаў Рэспублікі Беларусь кіраўніку Прадстаўніцтва Еўрапейскага зьвязу і амбасадару Рэспублікі Польшча выехаць з краіны і наступным адкліканьнем амбасадараў астатніх дзяржаваў Еўрапейскага зьвязу. Відавочна, што гэтыя падзеі прывядуць да паслабленьня міжнароднай прысутнасьці ў краіне і скарачэньню магчымасьцяў для міжнароднага кантролю за выкананьнем Беларусьсю абавязацельстваў у сферы чалавечага вымярэньня, што можа спрыяць далейшаму пагаршэньню сітуацыі з правамі чалавека і вяршэнствам права.

**У сувязі з гэтым Міжнародная назіральная місія:**

1. Ізноў зьвяртае ўвагу на тое, што рэкамендацыі міжнародных інстытутаў па правах чалавека і вяршэнстве права, у прыватнасьці, дакладу Маскоўскага механізму АБСЕ, па-ранейшаму не выконваюцца ўладамі Беларусі;

2. Заклікае дзяржавы-ўдзельніцы АБСЕ ў бліжэйшы час выкарыстоўваць усе існуючыя магчымасьці для таго, каб дамагчыся ад уладаў Рэспублікі Беларусь вяртаньня да выкананьня раней прынятых на сябе міжнародных абавязацельстваў у сферы чалавечага вымярэньня, павагі да стандартаў і механізмаў АБСЕ, а таксама аднаўленьня работы ў Рэспубліцы Беларусь офісу АБСЕ і пашырэньня яго мандата, роўна як і мандатаў існуючых прадстаўніцтваў іншых міжурадавых арганізацыяў (ААН і Савету Еўропы);

3. Лічыць неабходным у дадзены момант узмацніць кантроль за выкананьнем правоў чалавека ў краіне з боку амбасадаў іншых дзяржаваў, прадстаўленых у Беларусі, перш за ўсё, дзяржаваў-удзельніцаў АБСЕ, якія прынялі на сябе ў адпаведнасьці з Заключным Хельсінскім актам абавязацельства ажыцьцяўляць міжнароднае назіраньне за сітуацыяй у сферы чалавечага вымярэньня;

4. Зьвяртаецца да няўрадавых арганізацыяў рэгіёну АБСЕ з заклікам аказаць максімальна магчымую падтрымку беларускай грамадзянскай супольнасьці і праваабаронцам, роўна як і міжнародным арганізацыям, якія прыкладаюць намаганьні па абароне правоў чалавека ў Беларусі, а таксама павялічваць сваю ўласную прысутнасьць у краіне.

**Кіраўнік Місіі Андрэй ЮРАЎ**

*29 лютага 2012*

# На варце інтарэсаў грамадзянскай супольнасьці

22 лютага Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі, найбуйнейшае згуртаваньне айчынных грамадзкіх аб'яднаньняў, адзначыла сваё пятнаццацігоддзе. У лютым 1997 году ва ўстаноўчым кангрэсе Асамблеі ўзялі ўдзел 250 арганізацыяў, аб'яднаных агульнымі каштоўнасьцямі і бачаньнем супольных інтарэсаў. Сярод іх былі аўтарытэтныя няўрадавыя арганізацыі, такія як Беларуская асацыяцыя журналістаў, Беларускі Хельсінскі камітэт, Праваабарончы цэнтр "Вясна'96", Фонд "Дзецям Чарнобыля", Фонд імя Льва Сапегі, а таксама дзясяткі маладзёвых, экалагічных, краязнаўчых ды дабрачынных арганізацыяў ды ініцыятываў з усёй Беларусі.

На сёньня сябрамі Асамблеі НДА зьяўляюцца больш за 300 арганізацыяў. Намаганьнямі Асамблеі быў праведзены шэраг гучных агульнанацыянальных кампаніяў, сярод іх можна адзначыць "SOS! Трэці сектар", "Зробім лепш", "Выбірай", "Стоп 193.1!" ды іншыя. Ад 2009 году Асамблея адзначае і ўзнагароджвае "Чэмпіёнаў грамадзянскай супольнасьці". Дарэчы, Праваабарончы цэнтр "Вясна" на працягу трох гадоў зьяўляецца лаўрэатам гэтай прэміі: у 2009 годзе ў намінацыі "Грамадзянская кампанія году" – за супольную з Беларускім Хельсінскім Камітэтам ініцыятыву "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня ў Беларусі" і ў намінацыі "Крэатыў году" за супольную з Выканаўчым Бюро Асамблеі НДА, Беларускім Хельсінскім Камітэтам і Моладдзю БНФ "Акцыю незарэгістраваных Дзядоў Маразоў", у 2010 годзе ў намінацыі "Грамадзянская кампанія году" – за супольную з Беларускім Хельсінскім Камітэтам ініцыятыву "Праваабаронцы за свабодныя выбары", а ў 2011 годзе старшыня арганізацыі Алесь Бяляцкі стаў "Грамадзкім лідарам году".

"Супольнымі высілкамі мы працягваем агучваць і адстойваць інтарэсы ўсяго сектару перад дзяржавай, спрыяць разьвіцьцю і посьпеху арганізацыяў-сяброў, прасоўваць каштоўнасьці дэмакратыі і ўдзелу грамадзян у сацыяльным жыцьці", – адзначыў Сяргей Мацкевіч, цяперашні старшыня Рабочай групы Асамблеі НДА. Ён таксама заклікаў усіх сяброў Асамблеі падтрымліваць лістамі вязьня сумленьня Алеся Бяляцкага, які ўзначальваў Рабочую групу Асамблеі ў перыяд 2000-2004 гг., а з 2004 г. па цяперашні час зьяўляецца намесьнікам старшыні групы.

# Далоў сярэднявечча

## Акцыя супраць сьмяротнага пакараньня ў Салігорску

Грамадзкія актывісты Салігорску пры падтрымцы мясцовых праваабаронцаў 24 лютага распаўсюдзілі інфармацыйныя матэрыялы супраць сьмяротнага пакараньня.

У межах акцыі жыхары гораду змаглі азнаёміцца з улёткамі ды інфармацыйнымі буклетамі агульнанацыянальнай кампаніі "Праваабаронцы супраць сьмяротнага пакараньня". У буклетах, між іншым, апублікавана інтэрв'ю з маці Андрэя Жука з Салігоршчыны, расстралянага ў 2010 годзе.

"Трэба прызнаць, што беларускае грамадзтва недастаткова абазнанае ў гэтым пытаньні, – сьцьвярджаньне вядомы салігорскі праваабаронца Леанід Мархотка. – Выказваючыся ў падтрымку сьмяротнага пакараньня, людзі часта кіруюцца інстынктыўным жаданьнем помсты, а не жаданьнем рэальнага аднаўленьня справядлівасьці. На жаль, дзяржава таксама не прыкладае дастатковых намаганьняў для разбурэньня сярэднявечных уяўленьняў аб гэткім, фактычна ўзаконеным, забойстве."

Салігорскія праваабаронцы нагадваюць, што пры пакараньні сьмерцю ёсьць верагоднасьць забойства невінаватага праз недасканаласьць судовай сістэмы. Гэта тая памылка, якую ўжо ніколі ня будзе магчымасьці выправіць. Акрамя гэтага, такая кара ёсьць пакараньнем і пакутамі таксама для сваякоў расстраляных і не зьяўляецца стрымліваючым фактарам для злачынцаў.

Беларусь зьяўляецца адзінай краінай у Еўропе, дзе існуе практыка сьмяротнага пакараньня. Пасьля адмены такога пакараньня Узьбекістанам нашая краіна засталася і апошняй дзяржавай былога СССР, у якой дагэтуль выносяцца і выконваюцца сьмяротныя прысуды.

# Дыктоўка ў Дзень роднай мовы

У міжнародны Дзень роднай мовы стартавала пятая агульнанацыянальная дыктоўка. Некаторыя пісалі беларускай лацінкай, а сярод удзельнікаў былі і прадстаўнікі амбасадаў.

Гэтым разам пісалі патрыятычны тэкст Янкі Купалы "Ліст у рэдакцыю" (1925 год). 21 лютага прайшоў першы этап агульнанацыянальнай дыктоўкі–2012. Другі адбудзецца ў сядзібе грамадзкага аб'яднаньня Таварыства беларускай мовы ў Дзень канстытуцыі 15 сакавіка. Трэцюю напішуць 25 сакавіка – у Дзень Волі.

"Цікавасьць да дыктоўкі расьце ў геаметрычнай прагрэсіі: яе пішуць ужо ў каледжах, універсітэтах, пішуць нават дэканы," – паведаміў карэспандэнту "Салідарнасьці" старшыня ТБМ Алег Трусаў.




Менск, 21 лютага 2012 году.

Дарэчы, паводле словаў Уладзіміра Падгола – аўтара ідэі агульнанацыянальных дыктовак – варта было б зладзіць падобнае мерапрыемства і 14 траўня – на чарговую гадавіну рэферэндуму 1995 году, які моцна абмежаваў ужываньне беларускай мовы.

На дыктоўку завіталі таксама прадстаўнікі дыпламатычных місіяў. Італьянская амбасада дэлегавала сваю супрацоўніцу беларускага паходжаньня. Была тут і прадстаўніца чэскай амбасады.

Скульптар Гэнік Лойка і яго дачка Кіра пісалі на лацінцы. Большасьць удзельнікаў дыктоўкі забіралі свае "рукапісы".

"Некаторыя пакідаюць дыктоўкі на праверку. Але людзі ў асноўным ідуць ня столькі дзеля таго, каб іх праверылі ці ўзнагародзілі, – распавяла пра дыктоўку намесьніца старшыні ТБМ Алена Анісім. – Сама ўзнагарода ў тым, каб адчуць слова беларускае, каб пачуць яго з вуснаў іншых людзей, пабачыць, што яны не адзінокія ў сваёй любові да беларускай мовы."

Першую ў 2012 годзе дыктоўку чыталі аж пяць разоў: у ёй прынялі ўдзел амаль 100 чалавек, а таму давялося разьдзяліцца на групы.

**Аліна ТАРАНІК**

## Акцыя ў падтрымку беларускай мовы

**21 лютага група актывістаў аб'яднаньня "Беларускае Нацыянальнае Адраджэньне" правяла флэшмоб у гонар Міжнароднага дня роднай мовы. Акцыя распачалася каля Беларускага дзяржаўнага аграрна-тэхнічнага ўніверсітэту. Актывісты, распаўсюджваючы ўлёткі і газеты "Наша слова", прайшлі да кінатэатру "Кастрычнік" і там раздалі апошнія друкаваныя матэрыялы. Людзі з цікавасьцю бралі газеты. Потым актывісты ўсклалі бел-чырвона-белыя кветкі да помнікаў Янку Купалу і Якубу Коласу.**

**Нагадаем: Беларускае Нацыянальнае Адраджэньне" – аб'яднаньне моладзі, мэтаю якога зьяўляецца нацыянальнае адраджэньне Беларусі: яе культуры, гісторыі і мовы.**

**Дзень роднай мовы адзначаецца ў Беларусі штогод 21 лютага, пачынаючы з 1999 году. Традыцыя сьвяткаваць гэты дзень узьнікла ў 1956 годзе, калі 4 студэнты загінулі на мітынгу, патрабуючы навучаньня ў універсітэтах Бангладэш на роднай мове.**

"Права на волю". Праваабарончы бюлетэнь. Выходзіць два разы на месяц.
Наклад 299 асобнікаў. Пры передруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.